**№№51–52**
**(3590–3591)**
30 сакавіка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Открытое письмо **Леонтия Зданевича**, депутата Верховного Совета 12-го созыва, **Александру Лукашенко**, которого он когда-то предложил на должность председателя антикоррупционной комиссии.*





## Надругательство над беззащитным человеком — аморально

Уважаемый Александр Григорьевич!

Мне нелегко далось первое слово этого письма, но я не могу по-другому обращаться с просьбой к человеку, от которого реально зависят судьбы многих людей, а также потому, что искренне надеюсь быть услышанным.

Я думаю, что Вам небезынтересно знать мое мнение о Вашей деятельности за многие годы президентства. Но цель моего обращения конкретная, поэтому буду очень краток.

Поверьте, большинство людей, которых Вы видите в оппонентах либо, возможно, в недругах, и я в том числе, замечают не только плохое в Ваших делах. У Вас тяжелая работа, и задачи, которые Вам приходится решать, не имеют однозначного решения. Время же зачастую побуждает переосмысливать многие явления. Вот и я стал менее романтичным, чем 20 лет назад... Вспомните, как нас критиковали за идею Балтийско-Черноморского коллектора. Прошло время, и вот уже несколько лет, к сожалению, с большим опозданием Вы серьезно занимаетесь проблемой диверсификации поставки энергоносителей.

Бело-красно-белый флаг — это не символ Ваших оппонентов, это кровь наших предков на белом полотне. Это наша с Вами история и никто и никогда не в силах осквернить эту святыню. Не унижайте всех нас, спасите жизнь Сергею Коваленко, ведь он спасает нашу с Вами совесть!

Волею судьбы я несу прямую ответственность за Ваши деяния. Ведь именно я 19 лет назад на сессии Верховного Совета предложил Вашу кандидатуру на пост председателя антикоррупционной комиссии...

Чувство роковой вины преследует меня, собственно, оно и заставило написать это письмо.

Мы разные. Но есть, должно быть, что-то общее у всех людей, тем более приверженцев христианской морали.

Есть граница, которую можно переступить, но лучше этого не делать, потому что там, за этой границей, — нет почвы под ногами.

Есть победы, которые не радуют.

Есть друзья, которые предают.

Есть не друзья, которые желают добра.

Есть безысходность, наша безысходность, которая воцарилась не только от многолетнего морального насилия, не только от истощения Веры, но и от гнетущего разочарования в природе человека...

Надругательство над беззащитным человеком, тем более публичное, — аморально и не присуще сильной личности, настоящему мужчине.

Дайте нам шанс поверить в Ваше Достоинство.

Отпустите Сергея Коваленко, Андрея Санникова, Николая Статкевича и других патриотов!

И Вы, и Ваши дети почувствуете облегчение, а мы Вам скажем спасибо.

**Леонтий ЗДАНЕВИЧ,**
**архитектор, лауреат Государственной премии Республики Беларусь,**
**депутат Верховного Совета 12-го созыва.**

**БЕЛАРУСЬ—ЕВРОПА**

## Освободите немедленно!

Вчера Европарламент принял очередную резолюцию о ситуации в Беларуси. Депутаты потребовали *"немедленного и безусловного освобождения белорусскими властями политических заключенных"*.

Согласно резолюции, *"пока не будут освобождены и полностью восстановлены в гражданских правах политические заключенные, а также в отсутствие прогресса в сферах демократии, прав человека и правового государства диалог между Европейским Союзом и Беларусью не сможет продвигаться"*.

В документе поименно названы те заключенные, которых Европарламент требует освободить в первую очередь. Это глава центра защиты прав человека "Весна" **Алесь Беляцкий,** бывшие кандидаты в президенты **Николай Статкевич** и **Андрей Санников,** ответственные за избирательную кампанию кандидатов от оппозиции **Павел Северинец** и **Дмитрий Бондаренко**, политический заключенный **Сергей Коваленко,** предпринявший длительную голодовку протеста, опасно подорвавшую его здоровье.

В резолюции отмечается, что солидарный отзыв послов всех стран союза из Минска свидетельствует о крахе попыток белорусских властей внести раскол в ряды ЕС по вопросу о санкциях. Документ осуждает оскорбительное высказывание президента Беларуси Александра Лукашенко в адрес министра иностранных дел Германии. Европейские депутаты подчеркнули, что "*Минску, вместо того, чтобы все больше и больше самоизолироваться, стоило бы сделать правильный выбор для своего народа и открыться демократии"*.

Евродепутаты выразили глубокое сожаление приведением в исполнение, несмотря на протесты, в том числе международные, смертного приговора Владиславу Ковалеву и Дмитрию Коновалову, осужденным за взрыв в минском метро, призвали власти Беларуси выдать тела казненных их родственникам и потребовали немедленного установления моратория на смертную казнь.

В документе выражается сожаление о составлении белорусскими властями списка представителей оппозиции и правозащитников, которым запрещен выезд за рубеж. Минск призывают положить конец подобной практике, нарушающей основополагающие свободы граждан Беларуси.

**РЕАКЦИЯ**

## *Оторвались от реальности*

*Белорусский МИД назвал далекой от реальности оценку ситуации в Беларуси, сделанную Европарламентом.*

Резолюция Европарламента по Беларуси подтверждает стереотипное мышление европарламентариев, их оценка ситуации в стране является однобокой и далека от реальности, заявил агентству "Интерфакс-Запад" начальник управления информации — пресс-секретарь МИД Беларуси **Андрей САВИНЫХ.**

*"К сожалению, мы видим стереотипное поведение, далекое от реальности"*, — сказал представитель МИД.

**СКАЗАНО!**

## *Владимир ПУТИН, премьер-министр России:*

— Санкции Евросоюза не являются покушением на Таможенный союз, на Единое экономическое пространство. Это чисто взаимоотношения политического характера между Евросоюзом и Беларусью. Мы сожалеем об этом, надеемся, что рано или поздно нормализация наступит между Евросоюзом и Белоруссией, но это никак не повлияет на ход наших интеграционных процессов на евразийском пространстве.

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## Хочацца вылаяцца...

Як раней паведамлялася, старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоля Лябедзьку,** старшыню партыі "Справядлівы свет" **Сяргея Калякіна** і актывіста грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь" **Аляксандра Атрошчанкава** супрацоўнікі міліцыі на транспарце знялі з цягніка Мінск—Масква ноччу 28 сакавіка...

Праз расійскую сталіцу палітыкі меліся вылецець у Брусель, дзе 29 сакавіка Еўрапарламент павінен быў разглядаць чарговую рэзалюцыю па Беларусі.

Але паездка Лябедзькі, Калякіна і Атрошчанкава скончылася, ледзь пачаўшыся. У Оршы міліцыянеры ўварваліся ў купэ, у якім ехалі палітыкі, і загадалі прайсці з імі. Спачатку ў апазіцыянераў шукалі наркотыкі, быццам бы ў супрацоўнікаў міліцыі была інфармацыя аб тым, што палітыкі могуць перавозіць з сабой забароненыя рэчывы...

Але ў выніку справа звялася да звыклага для сённяшняй Беларусі адміністрацыйнага артыкула — "дробнае хуліганства". Што ім да таго, што перад імі сур'ёзныя людзі!

Увесь дзень 28 сакавіка Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін і Аляксандр Атрошчанкаў правялі ў ізалятары Аршанскага ўпраўлення ўнутраных спраў. Марна чакалі сваякі і паплечнікі затрыманых — суд над апазіцыянерамі так і не пачаўся. Вечарам таго ж дня стала вядома, што разбіральніцтва пачнецца 29 сакавіка.

Аднак і ўчора сваякі затрыманых і журналісты ледзь не з боем спрабавалі даведацца, дзе ўсё ж будуць судзіць Лябедзьку, Калякіна і Атрошчанкава. Бацьку Аляксандра Атрошчанкава Сяргею Паўлавічу ў аршанскім ізалятары ўнутраных спраў паведамілі, што суд над затрыманымі палітыкамі адбудзецца не ў будынку Аршанскага гарадскога суда, а ў лінейным аддзеле міліцыі на транспарце, што на мясцовым чыгуначным вакзале. Менавіта туды для перакanання сваякоў затрыманых падагналі аўтазак...

Аднак бліжэй да абеду высветлілася, што разбіральніцтва ўсё ж адбудзецца ў Аршанскім гарадскім судзе...

Атмасфера вакол звычайнага адміністрацыйнага працэсу ў Оршы нагадвала тэатр абсурду. Уваход на трэці паверх, дзе і меўся прайсці суд, быў заблакіраваны супрацоўнікамі міліцыі. Маёр **Віталь Гапееў,** старшына **Вадзім Кур'янаў,** старшы лейтэнант **Аляксандр Ларчанка,** не прапускаючы нікога з прысутных у залу суда, паведамілі, што такім чынам выконваюць загад свайго непасрэднага начальніка — кіраўніка аршанскай міліцыі **Анатоля Сільчанкі.** "Судовае разбіральніцтва пройдзе ў закрытым рэжыме", — паведамілі вартавыя парадку прысутным у зале суда. Маўляў, такое рашэнне прыняла суддзя **Наталля Байцова.** Дайшло да абсурду — на паверх, дзе судзілі Лябедзьку, Калякіна і Атрошчанкава, перасталі пускаць нават тых, хто прыйшоў у суд па сваіх асабістых, далёка не палітычных справах...

Тым часам Сяргей Атрошчанкаў напісаў скаргу на імя старшыні суда, патрабуючы зрабіць суд адкрытым, а вядомы праваабаронца **Валерый Шчукін** у знак пратэсту сеў на падлогу прама ў будынку суда, дамагаючыся таго, каб яго пусцілі ў залу суда...

Цяжка сказаць, што ў рэшцэ рэшт спрацавала — скарга Сяргея Атрошчанкава ці эпатажны ўчынак Шчукіна, але бліжэй да 15.00 прысутных сталі пускаць у судовую залу - праўда, журналістам не дазволілі пранесці з сабой дыктафоны, фотаапараты, ноўтбукі...

Сам працэс над палітыкамі нагадваў фарс. Падсудным прапанавалі скарыстацца паслугамі трох дзяжурных адвакатаў з аршанскай юрыдычнай кансультацыі. Сваю адмову Калякін, Лябедзька і Атрошчанкаў патлумачылі тым, што не давяраюць гэтым юрыстам. Аляксандр Атрошчанкаў заявіў хадайніцтва аб тым, каб у суд быў выкліканы ягоны адвакат, але хадайніцтва было адхілена... Разбіральніцтва працягнулася без абаронцаў.

Лябедзька і Калякін нават у судзе не здагадваліся, у чым іх абвінавачваюць. З матэрыяламі адміністрацыйнай справы да суда іх ніхто не азнаёміў. Таму адпаведнае хадайніцтва было заяўлена імі ў зале суда...

Калі нумар газеты адпраўляўся ў друкарню, стаў вядомы прысуд: і Лябедзьку, і Калякіна, і Атрошчанкава суд прызнаў вінаватымі ў нецэнзурнай лаянцы. Усім траім прызначаны штраф у памеры 10 базавых велічынь — 350 тысяч рублёў. Вось сапраўды той выпадак, калі хочацца вылаяцца!

**Антон ВІТАЛЬЕЎ,**
**Алесь СІВЫ.**

*Орша—Мінск.*

**SOS!**

## *Адны косткі*

### *Сяргей Каваленка важыць усяго 45 кілаграмаў*

*Учора ў калоніі "Віцьба-3" віцебскага актывіста КХП—БНФ наведаў адвакат Аляксандр Галіеў.*

*"З размовы з адвакатам я зразумела, што стан Сяргея пагоршыўся,* — расказала "Народнай Волі" жонка віцебскага актывіста Алена Каваленка. — *Калі яшчэ на мінулым тыдні ён важыў крыху менш за 50 кілаграмаў, то зараз ужо 45. Сяргей катастрафічна губляе вагу. Ён па-ранейшаму знаходзіцца ў псіхіятрычным аддзяленні, але ніякай медыцынскай дапамогі яму не аказваюць. Інфармацыя пра тое, што ў турме чакаюць судовага дазволу на тое, каб пачаць уводзіць мужу ежу праз зонд, не адпавядае рэчаіснасці. Па закону суд не можа прыняць рашэнне аб прымусовым кармленні асуджанага. У кампетэнцыі суда — накіраванне чалавека на прымусовае псіхіятрычнае рашэнне. Але і такога рашэння ў дачыненні да Сяргея няма. Наадварот, пасля агляду доктарам ён прызнаны адэкватным".*

Па звестках Алены Каваленка, ад Сяргея патрабуюць, каб ён напісаў паперу, у якой бы пагадзіўся на добраахвотны выхад з галадоўкі. Але ніякіх падобных папер ён падпісваць не збіраецца, бо па-ранейшаму настойвае на тым, што павінен быць вызвалены, каб яму аказалі кваліфікаваную медыцынскую дапамогу звычайныя медыкі.

*"Я не ведаю, чаго яны чакаюць,* — гаворыць Алена. — *Сяргею тэрмінова неабходна ратаваць жыццё. Няўжо чакаюць, каб ён памёр і не дажыў да разгляду касацыйнай скаргі па сваёй справе?! Няўжо ў гэтых людзей няма сэрца?!"*

Дарэчы, папярэдне разгляд касацыйнай скаргі на прысуд суда Першамайскага раёна Віцебска быў прызначаны ў Віцебскім абласным судзе на 30 сакавіка. Але, нібы здзекуючыся з чалавека, які літаральна памірае, дату разгляду "касацыі" перанеслі аж на 10 красавіка.

Нагадаем, што актывіст партыі КХП—БНФ Сяргей Каваленка быў асуджаны на 2 гады і 1 месяц пазбаўлення волі за парушэнне ўмоў адбывання "хатняй хіміі", якая была яму прысуджана за тое, што на навагодняй ёлцы Віцебска ён павесіў бел-чырвона-белы сцяг. Сваёй віны актывіст не прызнаў. Пратэстуючы супраць крымінальнага пераследу, ён абвясціў галадоўку, якую з 20-дзённым перапынкам трымае з 20 снежня мінулага года.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**СКАНДАЛ**

## Почему у процветающего «Амкодора» нищие акционеры?

Скажете, такого не может быть? Может! Это подтвердилось и на недавно состоявшемся годовом собрании акционеров.

Но расскажем все по порядку. Встреча в большом зале тех, кто когда-то, поджав живот, подставил плечо ОАО "Амкодор", была назначена на 27 марта. За 30 дней до этой даты всем акционерам разослали специальное уведомление. Те, кто по возрасту уже не работает на предприятии и из-за мизерной пенсии еле-еле сводит концы с концами, обрадовались: наконец-то будет принято решение о выплате дивидендов!

Но... Уже само начало собрания ничего хорошего не сулило бедным людям. Не успели занять места в зале, как услышали: "Председателя Совета директоров Александра Шакутина на собрании не будет". — "Как не будет? Он же главное лицо..." — "Уехал в служебную командировку".

Видели б вы, уважаемые читатели, в тот момент лица огорошенных акционеров! Сцена похлеще гоголевской. Плевок да еще какой в душу! А тем временем кое-кто, воспользовавшись растерянностью масс, стал рисовать общую картину радужными красками. Из доклада гендиректора В.А.Кондратчика прозвучало, что в 2011 году ОАО "Амкодор" развивалось стабильно, рост производства по сравнению с предыдущим годом составил 146 процентов, заработали новые предприятия в Логойске, Дзержинске, приватизирован завод "Белвар", чистая прибыль общества составила 88,4 миллиарда рублей.

Присутствующих в зале, конечно, интересовал вопрос: а что получат акционеры от этих успехов?! Оказалось — ничего! Как и десять лет подряд! Прозвучала стандартная фраза, которая исходит от Совета директоров: в целях модернизации производства дивиденды за 2011 год не выплачивать... (**Справка:** "Новые хозяева" пришли на "Амкодор" в 2001 году, когда акция стоила 40.000 рублей (29,7 доллара), в 2011 году ее цена не изменилась, но уже в валютном эквиваленте она равна всего 5 долларам.)

Людей в очередной раз возмутило то, что за 10 лет не выплачено ни рубля дивидендов, в то время как наполняемость акции на 2011 год составила 1.200.000 рублей. Сравните цифры: 1.200.000 и 40.000 рублей. Акционеры резонно поставили вопрос: как же так, прекрасные результаты хозяйственной деятельности — и нет дивидендов? Почему? Но все вопросы, предложения с мест просто игнорировались, то есть упирались в глухую стену председателя собрания. Ни на один вопрос не был получен аргументированный ответ, так как "Амкодором" теперь управляет один человек, который проигнорировал собрание.

Акционеры до глубины души были возмущены тем, что на проведение "Еврофеста" и "Славянского базара" деньги у "Амкодора" нашлись, а поддержать своих акционеров-стариков, которые проработали на предприятии по 30 и более лет, выплатить дивиденды денег не нашлось.

Поэтому, не дожидаясь конца собрания миноритарные акционеры дружно покинули зал.

Что интересно, на собрании присутствовал от государства (15 процентов акций) первый заместитель министра промышленности И.И.Демидович, но он сидел как мышь под веником. Кстати, за последние 10 лет с молчаливого согласия госчиновников привилегированные акции были антизаконно переведены в простые, никто не заставил руководство ОАО произвести переоценку стоимости акций.

Картина будет неполной, если не сказать, что теперь львиная доля акций ОАО "Амкодор" не у бывших и нынешних работников предприятия, а у "новых хозяев" во главе с небезызвестным А.Шакутиным. Неслучайно из зала доносились возгласы: "Сами в золоте купаются, а нам, старикам, жалеют денег на выплату дивидендов!"

Как известный "Амкодор" попал в руки "новых хозяев" — это отдельная тема. А пока лишь подтвердим слова, вынесенные в заголовок материала: у процветающего "Амкодора" действительно нищие акционеры. Не все, а те, которых называют миноритарными. То есть те, акции которых составляют мизерный процент от общего количества и голоса которых фактически не играют никакой роли при принятии решений.

А потому ушли они из зала заседаний, как говорится, несолоно хлебавши. Знали б люди, что так с ними будут обходиться "новые хозяева" — не отрывали бы когда-то от семей последние крохи, чтобы поддержать тогда бедствующий, а ныне процветающий "Амкодор".

**Сергей КИРЕЙЧИК.**

**P.S.**

**Не потому ли "новые хозяева" ОАО "Амкодор" так открыто обесценивают акции, что хотят вынудить оставшуюся часть их владельцев вообще распрощаться с ними? И тогда можно будет "толкнуть" всё предприятие какому-нибудь российскому олигарху, но уже со всеми наворотами. А то, что плачут и будут плакать денежки бедных людей, — кого это волнует?**

**«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»**

## Аляксандр Мілінкевіч адкажа на любыя пытанні!



*6 красавіка з 13 да 15 гадзін у "Народнай Волі" пройдзе тэлефонная "Прамая лінія" з Аляксандрам Мілінкевічам.*

*Чаму менавіта з ім?*

*Таму што, як сведчыць рэдакцыйная пошта, да экс-кандыдата ў прэзідэнты, лідара Руху "За свабоду" шмат пытанняў у грамадскасці.*

*Якую ролю ён іграе на палітычнай сцэне краіны?*

*Нацыянальны герой ці звычайны дэмагог?*

*Мае давер у народа ці не?*

*Здольны згуртаваць беларусаў, дабіцца перамен ці "не па Сеньку шапка"?*

*Атрымаць адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні ў чытачоў "Народнай Волі" будзе магчымасць падчас "Прамой лініі" з Аляксандрам Мілінкевічам. Спадзяёмся, ён задаволіць Вашу цікавасць па самых розных аспектах як свайго жыцця, так і жыцця нашай краіны.*

***Нумар "Прамой лініі": 8-017 328-68-41.***
***Яшчэ раз нагадаем: Аляксандр Мілінкевіч будзе на сувязі 6 красавіка з 13 да 15 гадзін.***

***Пытанні для Мілінкевіча таксама можна загадзя дасылаць праз электронную пошту nv@promedia.by і пісьмова ў звычайных лістах з пазнакай «Прамая лінія».***

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

## *Ці на адным баку будуць суд і закон?*

### *Звольненыя актывісты "Граніта" спрабуюць праз суд аднавіцца на працы*

Лідар рабочых, якія спрабуюць стварыць на прадпрыемстве пярвічную арганізацыю незалежнага прафсаюза гарнякоў, Алег Стахаевіч лічыць, што мае ўсе шанцы аднавіцца на працы. Такая ўпэўненасць у яго з'явілася пасля папярэдняга судовага пасяджэння ў Лунінецкім судзе, якое адбылося 27 сакавіка.

Нагадаем, што Алега Стахаевіча, які працаваў вадзіцелем, звольнілі пасля таго, як у яго забралі правы кіроўцы. Супрацоўнікі ДАІ патлумачылі актывісту, што ён нібыта не прапусціў пешахода на зебры. І гэта нібыта бачыў нейкі мінчанін, які паведаміў пра інцыдэнт у ДАІ. Гэтае звальненне пацягнула за сабой шэраг іншых. Ва ўсіх выпадках нібыта на законных падставах працы пазбавіліся стваральнікі пярвічкі незалежнага прафсаюза.

27 сакавіка ў Лунінецкі суд разам з Алегам прыехалі прадстаўнікі незалежнага прафсаюза на чале з кіраўніком Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандрам Ярашуком. Суддзя Васіль Бельскі адразу адмовіўся задаволіць хадайніцтва аб тым, каб прадпрыемства прадставіла суду поўны спіс вакансій. Актывісты прасілі таксама прадставіць дакументы аб парадку перанавучання, якія дзейнічаюць на прадпрыемстве. Алег Стахаевіч патлумачыў "Народнай Волі": "Я маю два дыпломы па спецыяльнасцях свідравальшчык нафтавых і газавых свідравін, а таксама інжынер адкрытых горных работ. Мне павінны былі прапанаваць нейкую іншую вакансію, калі не маглі мяне выкарыстоўваць у якасці кіроўцы БелАЗа. Ёсць такая практыка перанавучання на іншую спецыяльнасць, але мне гэтага не прапанавалі".

Суддзя адмовіўся запрасіць на суд галоўнага інжынера "Граніта" Эдуарда Гаўрылковіча, які цяпер кіруе прадпрыемствам. Хаця Стахаевіч сцвярджае, што ў дзень звальнення меў з ім гутарку. Ён кажа, што кіраўнік не прапанаваў яму перанавучыцца.

У любым выпадку справа прынята да разгляду. Суд па аднаўленні на працы Алега Стахаевіча, за якім сочаць рабочыя і грамадскія актывісты, пачнецца 4 красавіка ў 11.00 у Лунінецкім судзе.

*"Я маю пазітыўны настрой, бо ўпэўнены, што справа будзе на маю карысць,* — расказаў актывіст. — *Ім няма куды падзецца. Калі яны не далі спіс, значыць, вакансій хапала. І мяне маглі фармальна звольніць у тым выпадку, калі б я адмовіўся ад прапанаванай пасады. Думаю, што змагу аднавіцца на працы. Ва ўсялякім разе, на маім баку заканадаўства".*

Тым часам другі актывіст — Генадзь Паўлоўскі, якога звольнілі за прагул у той дзень, калі ён наведваў міліцыю, таксама рыхтуе дакументы ў суд.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АДУСЮЛЬ

## Амаль паўтары тысячы беларусаў папрасілі прытулку ў Еўропе

Афіцыйна апублікаваны даклад Вярхоўнага камісара ААН у справах уцекачоў. З яго вынікае, што ў мінулым годзе 441.300 чалавек былі афіцыйна прызнаны ўцекачамі і атрымалі палітычны прытулак у 44 краінах.

У Беларусі ў 2011 годзе былі пададзены 90 просьб на атрыманне прытулку (у 2010-м — 150 просьб). А вось колькасць нашых землякоў, якія шукалі палітычнага прытулку ў Еўропе, у 2011 годзе значна ўзрасла: 1441 чалавек з Беларусі (супраць 941 годам раней).

Дарэчы, найбольшую колькасць уцекачоў у мінулым годзе складалі афганцы, за імі былі кітайцы і іракцы. Найбольшая колькасць просьб аб прытулку была зарэгістравана ў ЗША (74.000), Францыі (52.000) і Германіі (46.000).

## Вайсковая акадэмія прыпыняе набор дзяўчат

Адпаведнае рашэнне прыняў міністр абароны Юрый Жадобін.

Яно тлумачыцца жаданнем прааналізаваць вынікі эксперыменту, які працягваўся пяць гадоў.

Цяпер у Ваеннай акадэміі праходзяць навучанне 11 дзяўчат на факультэце сувязі і аўтаматызаваных сістэм кіравання, сем — на авіяцыйным факультэце.

## У адны рукі шмат не даваць

На Магілёўшчыне ўведзены абмежаванні на продаж цукру: у адны рукі не больш за пяць кілаграмаў. Паводле рашэння абласных улад, такія захады ўводзяцца, каб забяспечыць крамы цукрам на ўвесь працоўны дзень.

Адзначаецца, што апошнім часам пачасціліся выпадкі, калі цукар скупляецца вялікімі партыямі. Акрамя абмежаванняў на продаж цукру, у вобласці дзейнічаюць таксама абмежаванні на продаж малочных прадуктаў — малака, тварагу, сыроў і смятаны. Абмежаваныя нормы продажу прадуктаў называюць часовымі. Паводле слоў чыноўнікаў, прадукты скупляюць буйнымі партыямі, каб перапрадаць у Расіі.

## Затрыманы старшыня Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання

Супраць Юрыя Дорна распачата крымінальная справа, ён абвінавачваецца ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Па афіцыйнай версіі, Дорн нібыта здаваў у арэнду памяшканні аб'яднання і ў некаторых выпадках атрымліваў ад прадпрымальнікаў "немалыя сумы ў валюце" і не афармляў дамовы. Але, як піша сайт "Рускі Ізраіль", Юрыя Дорна "падставіў" бізнесмен з Ізраіля, які арандаваў у яго памяшканні. Нібыта здарыўся канфлікт, пасля якога ізраільцянін звярнуўся ў міліцыю. У выніку Дорну ён перадаў апрацаваныя міліцыянерамі долары. Затрыманне адбылося яшчэ на мінулым тыдні.

ПРОБЛЕМА!

# Про яблоки

### *Почему мы по-прежнему завозим «золотые плоды» из-за границы?*



### Попытка вступления

Эту статью можно начать пафосным возгласом: "Доколе?!"

И он будет уместен.

Действительно, до каких пор Беларусь, имеющая возможность выращивать собственные плоды и полностью удовлетворять ими внутренний рынок, будет импортировать яблоки из Польши и Молдовы? За 2011 год в страну для реализации ввезено 100 тысяч тонн яблок. Своих произведено 67 тысяч тонн, но на торговые прилавки выложено лишь 30 тысяч тонн. Цена нашей нерасторопности — 50 миллионов долларов США. Немало...

Но, может быть, лучше про яблоки — сценкой с натуры? Сейчас на открытой площадке Комаровского рынка Минска яблоки продает 21 человек (по крайней мере, в последние выходные). Из них отечественными плодами торгуют лишь пятеро. И хотя яблочки, как говорится, и не высший сорт, бока у некоторых помятые, но все равно хорошо раскупаются. Одна торговка, радуясь, приговаривала: "А кому не нравится, пусть польские берет, опрысканные. А эти — наши". Слово "наши" она произносила с теплотой, со значением, как пароль. И хотя все понимали, что "опрысканные" теперь яблоки все, импортные и белорусские, к своим, отечественным, душа и вправду расположена больше. Психология покупателя!

### Между Горынью и Мерлинскими болотами

Нет, про яблоки я все-таки начну с географии, а именно со Столинского района Брестской области. Потому что, по оценке специалистов, именно там, на юго-западе страны, лучшие условия для выращивания белорусских яблок. Причем даже не на всей территории района, а в небольшом Давид-Городокском регионе, на так называемых Туровских землях. Там очень плодородная земля — реки Горынь, Припять и их притоки за тысячелетия паводков нанесли на почву высокий слой гумуса. Там благоприятная температура, оптимальная влажность — из-за близости Мерлинских болот майские заморозки, которые, как правило, повсюду жестоко сбивают яблоневый цвет, там гораздо слабее.

И еще там, можно сказать, особые люди с особыми традициями. Человеческий фактор.

О, эти столинские частники!.. Некоторые из них даже при советской власти не имели трудовой книжки, а работали на своих приусадебных сотках, выращивали цветы на семена и огурцы и торговали ими по всему СССР. Тяжелейший труд. Но хорошо кормил целые семьи. Ведь крупных производств рядом не было, только полуживые советские колхозы-совхозы — что там заработаешь? Как жить-выживать, детей поднимать? А коммерческая жилка в душе осталась! Здешний ремесленный и крестьянский люд никогда не забывал свою экономическую самостоятельность: какие делали вкусные сыры и возили продавать аж до Бессарабии, какие тачали сапоги, шили полушубки и шапки для Варшавы и Кракова, какие рубили плотники дома — бритву между бревнами не всадишь! А еще делали эксклюзивные лодки, весла — все лучшее, индивидуальное, не заимствованное. Не говоря уже о фруктах, овощах — всегда умели на Столинщине вырастить себе и людям. В общем, свободный труд свободно мыслящих людей. До сих пор 50% семей в этой зоне района указывают основным источником дохода землю, подсобное хозяйство. И по-прежнему этот регион снабжает качественными овощами треть Беларуси, еще и в Россию продают. В разгар сезона с оптового рынка Ольшан и окружающих деревень купцы увозят товар фурами по тысяче тонн в сутки, оставляя в день по миллиону долларов США!

В этом миллионе есть существенная доля фермерских хозяйств, которые начали развиваться здесь особенно активно в последнее десятилетие. Кроме огурцов, за 3—4 десятилетия здорово истощивших почву и теперь для обезвреживания болезней и вредителей требуется все больше и больше ядохимикатов (об этом вслух пока мало кто говорит, но проблема назревает, и еще какая!), фермеры на своей земле стали закладывать сады. Это оказалось колоссально выгодным видом сельскохозяйственной деятельности. По оценкам экспертов, даже при самом плохом раскладе яблоневый сад в любой год дает 50-процентную рентабельность, а в минувшем году в садах сельскохозяйственных организаций даже с урожайностью 6—8 т/га — более 200 процентов рентабельности!

Но фермеры — современные крестьяне, то бишь менеджеры, "плохой расклад" — это не про них. Прежде всего, чтобы не ломиться в открытую дверь, лучшие из них поехали учиться плодоводству за границу, в Польшу, в Голландию. Освоили новые технологии. Например, известные на Столинщине фермеры Иван и Михаил Гриб из деревни Ольшаны. Так у них трехлетние сады дают по 40 тонн плодов с гектара. Это европейский показатель! А теперь сравните — только присядьте на стул, чтобы не упасть, — какая урожайность в колхозных-совхозных садах страны: от 2 до 8,5 тонны с гектара. Почему — об этом ниже. А пока про фермерские угодья.

Фермеры привезли из Польши саженцы высокоинтенсивных карликовых сортов яблонь, груш, слив, которые растут у них на шпалерах с капельным орошением. А также привезли знания и уверенность, что только полное соблюдение технологии дает наибольший экономический эффект. Прошло три года, и они уже полностью обеспечили себя собственными саженцами, теперь продают их населению, фермерам помельче, а также сельхозпредприятиям. За прошедшее десятилетие объемы производства овощей и фруктов фермерских хозяйств на Столинщине ежегодно увеличивались на 30—50 процентов, это позволило им вырасти, окрепнуть, а также, что немаловажно, дать работу другим людям, снижая очень высокую скрытую безработицу самого неблагополучного в этом показателе Столинского района.

### В садах иных возможностей

Есть такие данные: эффект одного фермерского "овощного" гектара на Столинщине в шесть раз (!) больше колхозного: 325 центнеров против 52. Про урожайность фермерских яблок мы тоже говорили — цифры несопоставимые, частное плодово-ягодное хозяйство намного эффективнее. Причем люди рвутся к работе, к земле, заметьте, без государственной поддержки, не получая кредитов, рассчитывая только на собственные силы. В Столинском райисполкоме основной поток заявлений от граждан — о выделении участков. И если бы фермеры, частные хозяева получили столько земли, сколько просят, то соотношение польских и белорусских яблок на внутреннем рынке перевернулось бы прямо противоположным, зеркальным образом. Проблема импортозамещения плодов в стране, уверены эксперты, была бы решена.

За чем же дело стало? Естественно, за властями. Причем за властями местными — райисполкомом, облисполкомом. Потому что правительство страны после детального анализа ситуации в Столинском районе, проведенного специалистами Минсельхозпрода, уже давало поручение о создании в Давид-Городокской зоне крупного производства плодово-ягодных и овощных культур.

Но фермерам плодородной земли в Давид-Городокской зоне района (своей зоне) все равно не дают. Или, если дают, то очень и очень мало. Закон о равенстве всех форм собственности, приоритетности более эффективного землепользователя нарушается. Естественно, по самым "объективным" причинам.

По-моему, есть несколько факторов, объясняющих это. Может быть, я ошибаюсь, но главный фактор — психологический. Ведь отдать землю — это отдать власть. Пусть никто из райисполкомовских работников и выше никогда не скажет этого вслух, но подсознательно они противятся частнику всеми фибрами своей управленческой души как своему конкуренту, как идейному сопернику. И даже ссылаются на то, что выделение дополнительных участков земли фермерам под сады создаст социальную напряженность в районе. Эк завернули!

От зависти никуда не денешься, это правда. Но на Столинщине, где "совдепия" не пустила глубоких корней, вероятность мятежей против фермеров, по-моему, иллюзорна. Люди здесь живут зажиточные, любят собственность, умеют самостоятельно зарабатывать копейку. Конечно, они конкурентны, задиристы, как и все производители. А кто сказал, что быть ленивыми рохлями лучше? Да и за 10 прошедших лет, когда понемножку отдавали в аренду фермерам сельхозугодья (а их в данной зоне 18), никаких волнений не возникало!

Но есть для отказа в земле фермерам причины и более прагматичного порядка, чем "волнения народные". Это государственная программа по обеспечению продовольственной безопасности. Да, представьте себе! Государство, на словах поддерживая плодоводство, на деле с руководителей за него не спрашивает. Ну и зачем им, людям подневольным, яблочная головная боль? Что им слова "выгоднее", "рентабельнее"? Есть приказ — а в государстве нашем выстроена строгая управленческая вертикаль — сеять зерно и растить корма. И за них держать ответ. А что яблоки? Ведь даже если хозяйства и разбивают сады, то ответственности за сотни миллиардов бюджетных денег, "закопанных" под деревья за прошлую пятилетку, у них нет! В тюрьму за провальное плодоводство не посадят, даже с работы за плохой урожай в саду не снимут. А за хороший, между прочим, — не наградят, не похвалят! На "Дожинки" едут хлеборобы, в приоритетных направлениях у государства зерно. Ну и мясо с молоком. Под них все: бюджет, кредит. Сады где-то на третьей позиции. Ну а третьи — это в поле ветер.

Ветром выдувает в сторону Польши наши денежки, которые мы платим за золотые яблочки из-за рубежа... А могли бы, напротив, увеличивать доход в бюджет страны. Так кто же наконец развернет ситуацию на Столинщине в сторону государственных интересов?

**Елена МОЛОЧКО.**

SOS!

## Выміраем...

Белстат зноў канстатуе скарачэнне колькасці насельніцтва.

З пачатку года беларусаў паменела на 3,8 тысячы чалавек.

Як адзначае Беларускі статыстычны камітэт, негатыўная тэндэнцыя назіраецца, нягледзячы на павелічэнне жыхароў Мінска ды пазітыўны міграцыйны прырост. Так, насельніцтва Мінска павялічылася на 1,5 тысячы чалавек.

Змяншэнне насельніцтва адбываецца за кошт змяншэння жыхароў у беларускіх рэгіёнах. Лідарам па смяротнасці з'яўляецца Віцебская вобласць.

ЧУЛІ?

## Бывай, «Савецкае шампанскае»!

З-за ўступлення Беларусі ў Мытны саюз і ўзмацнення жорсткасці заканадаўства ў дачыненні да алкагольнай прадукцыі брэнд "Савецкае шампанскае" прыкладна праз год адыдзе ў нябыт.

*"Недалёкі той час, калі нам прыйдзецца адмовіцца ад брэнда "Савецкае шампанскае", а расіянам — ад "Расійскага шампанскага", таму мы ўжо зараз думаем над стварэннем сумеснага брэнда",* — расказала журналістам галоўны інжынер Мінскага завода пеністых він **Тамара Кісляк.**

Нагадаем, што шампанскае атрымала сваю назву ў правінцыі Шампань, якое знаходзіцца недалёка ад Парыжа, гэта значыць ад геаграфічнага месца. Таму цяпер заканадаўча ўводзіцца забарона на назву шампанскім пеністых він, выробленых дзе-небудзь, акрамя французскай Шампані.

ЗДАРЭННЕ

## Стэнд на выставе пакалечыў жанчын

З-за моцнага парыву ветру ўпала частка канструкцыі рэкламнага стэнда аднаго з экспанентаў выставы "Будэкспа", размешчанай на адкрытай пляцоўцы выставачнага комплексу ў Мінску.

*"Канструкцыя аднаго з удзельнікаў выставы не вытрывала пад моцным парывам штармавога ветру і ўпала. У выніку пацярпелі дзве жанчыны — адна атрымала траўму нагі, другая — галавы. Супрацоўнікі нашай кампаніі зрабілі ўсё магчымае, каб аказаць першую медыцынскую дапамогу",* — распавёў куратар выставы Сяргей Касталонаў.

ПРАГНОЗЫ

# Курс рубля зноў падтрымліваецца штучна?

У сакавіку попыт на долары перавысіў прапанову. Каб не дапусціць паслаблення беларускага рубля, Нацыянальнаму банку зноў давялося звярнуцца да валютных інтэрвенцый.

Такую выснову робяць эканамісты, грунтуючыся на даных Беларускай валютна-фондавай біржы. У перыяд з 1 па 26 сакавіка на таргах БВФБ валавы попыт на долары перавысіў прапанову амаль на 94 мільёны долараў. Па логіцы курс беларускага рубля ў адносінах да амерыканскай валюты павінен быў знізіцца. Але на практыцы ён вырас, хоць і нязначна, што *"сведчыць аб аднаўленні валютных інтэрвенцый з боку НББ пасля амаль 4-месячнага перапынку".*

Ёсць і іншыя падставы меркаваць, што курс рубля падтрымліваецца штучна. Як напісала адна недзяржаўная газета, *"паказчыкі грашовай масы пайшлі ўгару тэмпамі, якія бянтэжаць".* Шырокая грашовая маса на пачатак сакавіка склала 114,9 трыльёна рублёў, большага паказчыка ў гісторыі Беларусі проста не было. Аналізуючы банкаўскую статыстыку, спецыялісты сцвярджаюць: друкарскі станок зноў уключыўся. І гэта яшчэ да пасяўной, на якую спатрэбіцца амаль 10 трыльёнаў рублёў. Больш за тое, улады зноў уласнаручна арганізоўваюць чарговы крызіс, настойваючы на павышэнні заробку да 500 долараў на працягу года. Дык што будзе?

Меркаванні незалежных экспертаў падзяліліся.

### *Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ: «Пакуль няма падстаў для панікі»*



"Мая ацэнка сённяшняй сітуацыі на фінансавым рынку хутчэй блізкая да ацэнкі ўлад — урада і Нацыянальнага банка. Пакуль няма якіх-небудзь падстаў для панікі", — гаворыць былы старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч.

"Перавышэнне валютнага попыту над прапановай на дзясяткі мільёнаў долараў не з'яўляецца паказчыкам, паколькі экспарт Беларусі складае да 40 мільярдаў, таму трэба пачакаць, паглядзець і не даваць паспешлівых ацэнак, грунтуючыся толькі на даных, якія ёсць на сёння. Праблема можа ўзнікнуць, калі Беларусь (урад, Нацбанк, камерцыйныя банкі...) пачне пагашаць знешнія даўгі. Усё гэта можа адбіцца на стане валютнага рынку дзесьці ў сярэдзіне года. Можа быць, у другой палове", — прагназуе Станіслаў Багданкевіч.

### *Леанід ЗЛОТНІКАЎ: «Мінулагодняя сітуацыя можа паўтарыцца»*



"Будзе вельмі моцны ціск на прэзідэнта, на кіраўніцтва краіны з мэтай даць больш танныя крэдыты. І ў гэтым выпадку Нацыянальны банк не зможа выстаяць перад просьбай прэзідэнта зрабіць іх больш таннымі. І калі так адбудзецца, то можа паўтарыцца сітуацыя лета мінулага года, — прагназуе эканаміст Леанід Злотнікаў. — Найбольш верагодна, што ўсё ж адбудзецца зрыў. Магчыма, не такі вялікі, як у мінулым годзе. Проста патрэбны валютныя рэсурсы, каб вырашаць праблемы. А іх паступленне сёлета будзе нашмат ніжэйшым, чым у мінулыя гады".

РАКУРС

## *Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ:* «Ёсць у нас Біблія ці не?»

### *Адсутнасць здавальняючага перакладу Святога пісання можа дрэнна ўплываць на беларускую культуру.*



Не сакрэт, што многія еўрапейскія мовы сталі пісьменнымі менавіта дзякуючы Бібліі. Напрыклад, нямецкая мова існуе дзякуючы перакладу гоцкага біскупа Вулфілы сярэдзіны IV стагоддзя. Практычна тое ж самае можна сказаць і ў дачыненні да фарміравання нацыянальных культур. З беларускім жа перакладам справы ідуць некалькі інакш. Аб гэтым прысутным у мінскай "Галерэі Ў" распавяла доктар філасофіі і тэалогіі **Ірына Дубянецкая** падчас сваёй лекцыі "1000 гадоў без Бібліі. Беларускія біблійныя пераклады і еўрапейская цывілізацыя".

Паводле яе слоў, адсутнасць якаснага перакладу на жывую літаратурную беларускую мову можа дрэнна адбіцца на развіцці мовы.

Дарэчы, існуюць шматлікія пераклады Святога пісання, якія працягваюць з'яўляцца і да гэтага часу, але справа ў тым, што ні адзін з іх не перакладзены з арыгінала.

На думку Ірыны, а таксама прысутных знаўцаў пытання, у Беларусі існуюць людзі, здольныя зрабіць такую працу, аднак гэтаму перашкаджае і адсутнасць навуковай калегіяльнасці, і праца аўтараў з "нежывой" беларускай мовай, а таксама шэраг іншых фактараў. Запатрабаванасць "сваёй Бібліі" для беларускай культуры вельмі высокая, і лекцыя, падрыхтаваная Ірынай, з'яўляецца важным крокам у дасягненні мэты.




Але, нягледзячы на неабходнасць выпраўляць становішча, беларускае навуковае супольніцтва пакуль пакінула праблему без вырашэння: быць можа, згубны ўплыў доўгага існавання без Бібліі ўжо наклаў свой адбітак на беларускую культуру?

І калі так, то пытанне аб перакладзе зараз стаіць значна вастрэй, чым калі-небудзь...

**Аляксандр ЯВОРСКІ.**

ИМЕЙТЕ В ВИДУ

# Что подорожает с 1 апреля

***Как известно, с 1 апреля в Беларуси почти в три раза увеличится размер базовой величины, он составит 100 тысяч рублей. Вслед за базовой величиной вырастут штрафы, размер госпошлины и другие выплаты, которые в нашей стране привязаны к этому показателю.***

Правда, с 1 апреля подорожают и услуги, которые к базовой величине не привязаны. Например, проезд в общественном транспорте Минска подорожает до 1500 рублей за одну поездку.

Но, безусловно, ощутимо изменятся размеры штрафов, исчисляемые в базовых величинах, арендная плата. А если изменится аренда, то вырастут в цене и товары, некоторые услуги, если их предоставляют организации, которые размещаются на арендованных площадях. Например, некоторые автошколы Минска уже объявили о том, что с 1 апреля существенно подорожает обучение, хотя и сегодня оно составляет около 3 миллионов рублей вместе с расходами на бензин.

Но сегодня можно точно сказать, какими будут размеры штрафов. Например, за нарушения, которые допускаются чаще всего, с 1 апреля придется заплатить следующие штрафы:

***— за безбилетный проезд в общественном транспорте — 20.000 рублей;***

***— за распитие пива в общественном месте — до 800.000;***

***— за распитие алкогольных напитков в общественном месте или появление в общественном месте в пьяном виде — до 800.000;***

***— за нецензурную брань в общественном месте — 200.000—3.000.000;***

***— за разжигание костров в запрещенных местах — до 2.000.000 рублей.***

Существенно будут караться и нарушения Правил дорожного движения:

***— превышение скорости от 20 км/ч до 30 км/ч — 100.000—200.000 рублей;***

***— превышение скорости на 30 км/ч и более — 200.000—1.000.000;***

***— превышение скорости от 20 км/ч до 30 км/ч и свыше 30 км/ч повторно в течение года — 400.000—1.500.000;***

***— нарушение правил обгона либо выезд на полосу встречного движения в нарушение ПДД — 200.000—1.000.000;***

***— не пройденный в установленный срок без уважительной причины техосмотр — до 200.000;***

***— отсутствие договора обязательного страхования гражданской ответственности — 500.000;***

***— отсутствие договора обязательного страхования гражданской ответственности в случае ДТП — 1.000.000;***

***— управление авто в состоянии алкогольного или наркотического опьянения — 1.500.000—3.500.000 (лишение прав на 3 года);***

***— разговоры по мобильному телефону — до 200.000;***

***— непристегнутый ремень безопасности (в том числе и перевозка пассажиров, не пристегнутых ремнем безопасности) — до 100.000 рублей.***

В связи с тем, что в три раза увеличится размер государственных пошлин, значительно увеличатся судебные издержки, нотариальные и другие услуги. Например, с 1 апреля придется заплатить:

***— за заявление в загс — 100.000 рублей;***

***— за расторжение первого брака — 300.000;***

***— за расторжение повторного брака — 500.000;***

***— за замену паспорта — 50.000;***

***— за выдачу повторных свидетельств о регистрации актов гражданского состояния — 100.000;***

***— за подачу исковых заявлений в хозяйственные суды о признании сделок недействительными — 1.000.000;***

***— за госрегистрацию автомобиля с выдачей регистрационных знаков — 200.000;***

***— за оформление лицензии на открытие бизнеса — 800.000;***

***— налог за сдачу одной комнаты в месяц — 100.000 рублей.***

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## Ніна СТУЖЫНСКАЯ:
# «Я стала відушчай услед за творцамі рэвалюцыі»

*Як раскупляюцца гістарычныя кніжкі ў крамах?
Чаму ў беларускай гісторыі не знайшлося месца арыстакратам?
Навошта нам патрэбны пантэон герояў і каго туды варта ўключаць?
Ці трэба ствараць альтэрнатыўны інстытут гісторыі?
Пра гэта наша размова з кандыдатам гістарычных навук* ***Нінай Стужынскай.***



### Ідэалагічны вінегрэт

**— Ніна Іванаўна, сёння многія абмяркоўваюць тэму стварэння Беларускага пантэона. Як вам здаецца, наколькі яна актуальная? Можа, людзям зараз зусім не да гісторыі — ад эканамічных і фінансавых клопатаў галава кругам… І ўвогуле, для чаго патрэбны пантэон герояў?**

— У цяжкія часы ўнутраных і знешніх пагроз людзям уласціва звяртацца да досведу папярэднікаў. Прывяду, можа быць, не лепшы прыклад, затое пераканаўчы. Сталін, які шмат зрабіў, каб знішчыць дарэвалюцыйную гісторыю, калі прыпякло, у цяжкія моманты Другой сусветнай вайны, апеляваў да Нацыянальнага пантэона Расіі і прагматычна выкарыстоўваў аўтарытэт і папулярнасць герояў мінулага ў сваіх палітычных мэтах. Як сведчыць гісторыя, пад сонцам мала што адбываецца ўпершыню. Многія варыянты жыццёвых калізій людзі ўжо пражывалі. А калі так, то гісторыя для таго і ёсць, каб не наступаць на вечныя граблі. Таму цывілізаваныя народы вельмі беражліва да яе ставяцца.

Героі, людзі-камертоны проста неабходны для ўспрымання і ўсведамлення сённяшніх рэалій. Культываваны вобраз героя сведчыць аб вектары развіцця і ідэалагічных установках, якія заселі ў нашых галовах. Не лічу перабольшаннем сказанае: гістарычныя веды з'яўляюцца асноўным зместам самасвядомасці, сінонімам грамадзянскага "я". Наша гісторыя — гэта мы і ёсць. Вельмі карысная праца — паглядзець у гістарычнае люстэрка і адказаць на пытанне, ці падабаемся мы сабе.

**— *"Нашы дзеці павінны выхоўвацца на прыкладзе тых герояў, якія змагаліся за незалежнасць Украіны, а не за яе разрабаванне",* — так некалькі гадоў таму заявіла Юлія Цімашэнка. Яна прапанавала патрыётам Украіны аб'яднацца вакол нацыянальных святынь і нацыянальнага адраджэння. Але некаторыя дзеячы крытыкавалі Цімашэнка за тое, што Бандэра, маўляў, не той герой, славу якога трэба ўвекавечваць. Ці не будзе і ў Беларусі так, што адны гісторыкі прапануюць увекавечыць адных герояў, іншыя — іншых, і ў выніку наогул нічога не атрымаецца?**

— Вялікая рызыка звяртацца да досведу спадарыні Цімашэнка па абнаўленні грамадзянскай свядомасці ўкраінцаў. Вядома, дзе яна цяпер знаходзіцца. Аднак не за дзеянні Бандэры, трэба думаць, яна шые рабочыя рукавіцы. Наогул, гэта справа ўкраінцаў — займацца сартаваннем сваіх герояў і вызначаць, каму аддаць перавагу — незаплямленым дзеячам культуры ці палітыкам, рэпутацыя якіх заўсёды небездакорная і сумніўная. І тых, і іншых украінцам, які і беларусам, доўга давядзецца адскрабаць ад ідэалагічнай савецкай абалонкі. "Дрэнныя хлопцы" (у нашай гісторыі іх таксама хапае), як Бандэра, таму і дрэнныя, што супрацоўнічалі ў свой час не з НКУС, а, моцна матываваныя нелюбоўю да Масквы, аддалі перавагу іншым саюзнікам.

Спрэчкі і гарачыя дыскусіі вакол гістарычнай спадчыны — гэта нармальна і значна лепш, чым абыякавасць. Галоўнае ў дыскусіі — вызначыцца з крытэрыямі адбору. Я згодна з прафесарам Захарам Шыбекам, які ў сваім артыкуле ў "Народнай Волі" заўважыў: уклад у эканамічны і культурны прагрэс Беларусі, у кансалідацыю беларускага грамадства і ёсць галоўны крытэрый выбару героя. Мне падабаецца таксама падыход, прапанаваны Барысам Акунінымі. Вядомы пісьменнік лічыць, што калі персона, заўважаная ў гісторыі, спрыяла прымнажэнню пачуцця Вартасці народа, то яна заслугоўвае ўдзячнай памяці.

Эксперты, вядома, могуць прапанаваць зацікаўленай супольнасці прыкладны спіс. Але каго палюбіць і з каго браць прыклад — справа кожнага, хто думае не толькі аб *"чарцы, скварцы, каўбасе".* Я перакананая, што сваім дзецям у якасці прыкладаў для пераймання ніхто не будзе прапаноўваць тэрарыстаў, арганізатараў генацыду, забойцаў, рэвалюцыянераў. Толькі на першы погляд здаецца, што беларусы ментальна трывала затрымаліся ў савецкім мінулым. На самай справе за гады незалежнасці грамадзяне ў сваёй гісторыі знайшлі масу пераканаўчых доказаў на карысць еўрапейскага цывілізацыйнага выбару.

Замшэлыя ідалы савецкага мінулага нікога сёння не натхняюць. Ну, калі толькі з гумарам або, наадварот, з абурэннем за відавочную абразу рэлігійных пачуццяў можна ўспрымаць героем Беларусі царазабойцу Пятра Войкава, імя якога да гэтага часу красуецца на гарадскіх таблічках з назвай вуліцы. Вядома, што суседняя краіна, якая навязала нам такіх герояў, сама адмовілася ад іх і аддала анафеме. А ў нас яны жывей за ўсіх жывых. Цікава было б ацаніць іх гераічнае мінулае з пункту гледжання асноў сённяшняй Канстытуцыі!

Наша тапаніміка ўяўляе вялікі ідэалагічны вінегрэт, у якім асобы, дзеянні якіх цяпер ацэньваюцца як антыканстытуцыйныя, амаль што галоўны інгрэдыент. Я, напрыклад, маю рэгістрацыю (прапіску) на вуліцы імя паплечніка і саўдзельніка вышэйзгаданага Войкава — Якава Свярдлова. Чым сталей раблюся, тым часцей хаджу ў храм і вастрэй адчуваю абурэнне ад такой гістарычнай несправядлівасці! Бачу самую прамую сувязь паміж лёсавызначальнымі выпрабаваннямі, на якія сёння не скупіцца жыццё, і тымі негатыўнымі знакамі, якія засмецілі нашу жыццёвую прастору.

### Мужык-беларус: у лапцях і з каўтуном

**— Не так даўно рэзананс выклікала выказванне доктара філасофскіх навук, прафесара, намесніка дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Льва Крыштаповіча. Ён заявіў: *"Пад нацыянальнымі традыцыямі пачынаюць прапагандавацца і развівацца такія традыцыі, якія, я лічу, нічога агульнага не маюць з ментальнасцю нашага беларускага народа: калі ў нашу беларускую культуру цягнуць Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх як прадстаўнікоў менавіта беларускіх шляхецкіх родаў".***

— Сцвярджэнні паважанага прафесара не новыя, у традыцыях класавага падыходу і самапрыніжальнай тутэйшасці выключаць дваранскія і буржуазныя саслоўі з беларускай гістарычнай перспектывы. Наша напісаная гісторыя таму і бедная, аднабокая, што ў ёй не знайшлося месца князям, арыстакратам, купцам. На шчасце, зараз ганарацца не толькі рабоча-сялянскім паходжаннем. Шляхта, шматлікае і слаўнае саслоўе на нашых землях, у тым ліку і беларуская, праваслаўная, унесла сваю велізарную лепту ў фарміраванне нацыянальных традыцый. Было б жаданне гэта ўбачыць.

У савецкай версіі гістарыяграфіі існавала традыцыя "мужыка-беларуса" з абавязковым каўтуном і ў лапцях. Пакорны, цярплівы, працавіты і безыніцыятыўны — такі пераважны вобраз беларуса, сканструяваны ідэолагамі розных масцей. Замацаваць тэндэнцыю да прыніжанай самаацэнкі, якая з'яўляецца найцяжэйшай перашкодай на шляху да афармлення нацыянальна-культурнай самаідэнтыфікацыі, — галоўная мэта падобнай "традыцыі". У звязку з ёй выяўляюцца і зусім ужо небясшкодныя міфы пра "настаўнікаў" і "старэйшых братоў", без якіх беларусы не пражывуць. Аднак сёння для грамадзяніна Беларусі ёсць выбар, каго лічыць сваім папярэднікам, чые дзеянні браць за ўзор для пераймання і які кавалачак гістарычнага палатна выбраць для розуму і сэрца.

### Гісторыю вайны заменіць на гісторыю поспеху?

**— На ваш погляд, ці трэба ствараць у Беларусі альтэрнатыўны інстытут гісторыі?**

— Такая інстытуцыя, нефармальная, на мой погляд, ёсць. За рамкамі афіцыйнай гістарычнай навукі па розных прычынах апынуўся не адзін дзясятак добрых прафесіяналаў. Яны паспяхова працуюць, выпрацоўваюць цікавы запатрабаваны інтэлектуальны прадукт. Адсутнасць кантролю, неабходнасці абслугоўваць нечыя інтарэсы спрыяюць творчаму поспеху. Ідэя добрая — стварыць народны інстытут гісторыі. Кадры, ва ўсякім разе, для яго ёсць.

**— Калі не памыляюся, у нас была створана нейкая арганізацыя гісторыкаў…**

— Калі з Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук былі выгнаны вядомыя гісторыкі, тады і з'явілася ідэя стварэння "Асацыяцыі вольных гісторыкаў". Да афіцыйнай рэгістрацыі справа не дайшла, але група аднадумцаў засталася. Мы працуем разам, хоць і не пазіцыяніруем сябе як асобную грамадскую арганізацыю. Наша гістарычнае братэрства ажыццявіла цэлы шэраг цікавых і карысных грамадству праектаў, у прыватнасці, адзін з апошніх — "Гісторыя, якой няма ў падручніках", а таксама кампанію па папулярызацыі Нацыянальнага пантэона герояў Беларусі, якую толькі пачалі.

**— Гісторыю пачынаюць вывучаць у школах. Якія цяжкасці, на ваш погляд, сёння адчуваюць педагогі, што выкладаюць гісторыю Беларусі?**

— У кожнага педагога, думаю, яны розныя. Цяжэй за ўсё настаўнікам з грамадзянскай пазіцыяй, нацыянальнай арыентацыяй. Зыбкая нацыянальная самасвядомасць большасці насельніцтва, нелагічныя ўяўленні аб патрыятызме, што адбілася на змесце падручнікаў, нарэшце, экскурсіі на "Лінію Сталіна" ладна падрываюць маральнае, псіхалагічнае і прафесійнае здароўе. Ва ўмовах дэфіцыту герояў, якія дэманстравалі б падрастаючаму пакаленню мадэль паводзін абаронцы інтарэсаў радзімы, грамадзянскіх правоў і свабод, калегам складана пераадолець непрыманне гісторыі. Да таго ж на старонках падручніка гістарычная рэканструкцыя пазбаўлена разнастайнасці і пазітыву, палітычны ваенны пафас заглушае праўду жыцця. Вельмі шмат вайны, гэта значыць той гісторыі, якая аднаўляе вопыт траўм і гора. Цяперашнім маладым прагматыкам патрэбна гісторыя стварэння, паспяховага прадпрымальніцтва і гаспадарання, дасягненняў эканомікі.

### Не мяняюцца толькі дурні

**— У інтэрнэце знайшла спасылку на публікацыю доктара гістарычных навук, члена-карэспандэнта НАН Беларусі Пятра Петрыкава, які пісаў: *"Гісторык Ніна Стужынская ў свой час абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму "Савецкая гістарыяграфія Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі". Цяпер яна стала відушчай і сцвярджае: "Кастрычніцкая рэвалюцыя… не была ні вялікай, ні сацыялістычнай, ні рэвалюцыяй".***

— Я стала відушчай услед за творцамі рэвалюцыі. Завяршыўшы работу над дысертацыяй у 1985 годзе, прыйшла да несуцяшальнай для прававернай камуністкі (якой была на той момант) высновы. Галоўныя "нашы" рэвалюцыянеры — Аляксандр Мяснікоў (Мяснікян) і Вільгельм Кнорын (Кнорыньш), якія воляй лёсу апынуліся ў 1917 годзе на Заходнім фронце, у Мінску, не называлі прадукт сваёй дзейнасці ні вялікай, ні сацыялістычнай, ні рэвалюцыяй. Для іх гэта быў проста "ваенны пераварот". Хто не верыць, зазірніце ў рэвалюцыйныя святцы, працы Мяснікова і Кнорына. Аднак напісаць пра свае "адкрыцці" ў той час яшчэ не было магчымасці. Наогул, не мяняюцца толькі дурні. Чалавек, яго погляды і нават перакананні змяняюцца ў залежнасці ад сітуацыі, абставін, інфармаванасці. Пры зачыненых архівах і строгім партыйным кантролі паспяхова пладзіліся "шэдэўры" прапаганды, а вось з гістарычнай праўдай былі праблемы.

**— На ваш погляд, ці шмат плямаў у гісторыі Беларусі?**

— Шмат. Цэлы шэраг тэм да гэтага часу не заахвочваецца афіцыйнай навукай, застаецца прадметам клопату і намаганняў асобных гісторыкаў. Асабліва праблематычна з тэмамі, якія адносяцца да XX стагоддзя, на іх да гэтага часу ўплываюць ідэалагічныя забабоны. Апытанне мінчан напярэдадні святкавання Дня Волі, 25 сакавіка, засведчыла абуральную гістарычную недасведчанасць людзей. Уражанне было такое, як быццам апытваюць жыхароў Разані. Відавочна, што гісторыкі і грамадскія арганізацыі забыліся пра свой асветніцкі доўг, не змаглі данесці інфармацыю да шырокага кола людзей. Гісторыя, акрамя таго, што яе вымуць гісторыкі з архіваў, патрабуе ўвагі пісьменнікаў, драматургаў, іншых творчых людзей, каб не застацца ў забыцці на старонках акадэмічных выданняў.

На жаль, мы мала ведаем сваіх герояў, хто па праву заслугоўвае нашай любові і ўдзячнай памяці.

**— У мінулым годзе вы перавыдалі сваю кнігу "Беларусь мяцежная". Ведаю, што яна вельмі хутка знікла з прылаўкаў магазінаў. Раскупілі або забаранілі?**

— Раскупілі. Добра прадавалася ў кніжных крамах, куды 10 гадоў таму мяне і на парог не пускалі. Зараз выйшаў дадатковы тыраж.

**— Тым не менш некаторыя лічаць, што ў нас раскупляюцца ў асноўным дэтэктывы, любоўныя раманы, але ніяк не гістарычныя кнігі.**

— Не згодна з такім меркаваннем. Добрая гістарычная літаратура заўсёды карысталася попытам. У апошні час заўважыла цікавасць да беларускай гістарычнай кнігі з боку расійскага чытача, у першую чаргу прафесіяналаў. Сфарміраваўся запыт і на пераклад маёй кнігі на рускую мову. Лічу, гэта трэба зрабіць...

**Марына КОКТЫШ.**

ВІНШУЕМ!

## Станіслаў Шушкевіч атрымаў медаль Свабоды

Былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч атрымаў медаль Свабоды ад Фонду ахвяр камунізму.

На гэтым тыдні ён наведаў Мемарыял ахвяр камунізму ў Вашынгтоне. *"Маёй англійскай мовы хапае, каб прачытаць надпіс на помніку,* — прызнаўся Шушкевіч журналістам. — *Я прачытаў і пра 100 мільёнаў ахвяр. Кожны разумее гэта па-свойму, а я разумею гэта з пазіцыі маёй краіны, Беларусі. З гэтых 100 мільёнаў у мяне найбольшы боль за тых 30 чалавек, маіх родных, якіх я страціў. У маёй маці было 11 братоў і сёстраў, у майго бацькі было 10 братоў і сёстраў. Вялікія сем'і былі, пасля рэпрэсій засталося тры сястры ў маці і сястра і брат у бацькі. Усе астатнія загінулі. Мой бацька выжыў, але ён быў 20 гадоў у Сібіры. Толькі дзякуючы сваёй мужнасці ён выжыў. Вуліца, на якой я жыў у Мінску, гэта была вуліца з маленькімі дамамі, і там не было дома, у якім не было б рэпрэсаваных. І я паглядзеў на гэты помнік і падумаў, што мы павінны дажыць да таго часу (я хачу дажыць да таго часу!), калі ў маёй Беларусі, у маім Мінску будзе помнік ахвярам абодвух бакоў — фашызму і камунізму, усіх пачварных дыктатарскіх рэжымаў".*

Дарэчы, нагадаем, што Станіслаў Шушкевіч апынуўся ў спісе невыязных з Беларусі. Тым не менш трапіць за мяжу ён здолеў праз Расію.

ПАЛІТКУХНЯ

## Зала знайшлася

*Аб'яднанай грамадзянскай партыі далі памяшканне для з'езда. Ён пройдзе 31 сакавіка ў Палацы культуры трактарнага завода.*

Адпаведную дамову партыя падпісала з дырэктарам установы. Такім чынам, пытанне з месцам правядзення мерапрыемства нарэшце вырашана.

Нагадаем, што раней партыя атрымала каля дзясятка адмоў ад іншых сталічных памяшканняў.

На партыйным форуме плануецца пераабраць кіраўніцтва арганізацыі і прыняць стратэгію дзейнасці на бліжэйшыя некалькі гадоў. На дадзены момант на пасаду старшыні партыі маюць намер балатавацца два чалавекі — шматгадовы лідар Анатоль Лябедзька і кіраўнік маладзёжнага крыла АГП Алег Корбан.

ЧУЛІ?

## Мінус год

*Большасць беларускіх ВНУ з верасня пяройдуць на чатырохгадовы тэрмін навучання. Аб гэтым паведаміў міністр адукацыі* ***Сяргей Маскевіч.***

У мінулым годзе Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу прааналізаваць гэтак званы сацыяльна-гуманітарны блок і выключыць дубліраванне прадметаў школьнай і ўніверсітэцкай праграм. Зараз ідзе актыўная работа па аптымізацыі двухступеньчатай сістэмы вышэйшай адукацыі. Будзе ўдасканалены змест адукацыйных праграм як 1-й, так і 2-й ступеняў так, каб скараціць тэрмін навучання на 1-й ступені да 4 гадоў і ўзмацніць магістратуру. *"Пры гэтым абедзве праграмы будуць больш практыкаарыентаваныя",* — аб'явіў міністр.

Новая канцэпцыя выкладання сацыяльна-гуманітарнага блока ўжо прынята. Яна прадугледжвае памяншэнне колькасці аўдыторных гадзін, павелічэнне самастойнай працы студэнтаў, выключэнне дубліравання дысцыплін, якія праходзяць у агульнаадукацыйных установах.

Усе рэкамендацыі да канцэпцыі ўжо падрыхтаваны, з верасня 2012 г. большасць ВНУ краіны пяройдуць на новую сістэму.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ…

***Многие авторы статей, напечатанных в "Народной Воле", критикуют власти за то, что они вбухивают миллиарды рублей в сельское хозяйство, дотируя то одно направление производства, то другое. Скажите, пожалуйста, на этот шаг государство вынуждено идти из-за того, что коллективная форма собственности на селе не оправдывает себя, то есть не приносит должных результатов, или причина кроется в диспаритете цен на сельхозпродукцию и продукцию промышленности?***

**Николай КАЛЕНКОВИЧ.**

*Могилев.*

## Почему дотируется сельское хозяйство?

Уважаемый Николай Каленкович!

Нельзя сбрасывать со счетов ни один из названных Вами факторов. Реалии таковы, что если брать в целом, то коллективная форма собственности по многим показателям уступает частной форме собственности. Нельзя не вспомнить образные слова известного агрария, дважды Героя Социалистического Труда Василия Константиновича Старовойтова: "Нет такой силы в колхозе, которая заставила бы человека по-настоящему отдаваться работе". Это потому, что при обобществленной собственности утрачивается чувство хозяина, теряется заинтересованность в конечных результатах труда. И от этого сельскохозяйственное производство несет огромнейшие потери, в том числе финансовые. Вот почему остро стоит вопрос о реформировании сельского хозяйства, о решении земельной проблемы как основы жизнедеятельности деревни.

Но, будем откровенны, государство вынуждено идти на дотации аграрного сектора и по другой причине — из-за диспаритета цен. Полагаем, что лучшим пояснением тут могут быть примеры, приведенные недавно в одной из статей доктором экономических наук, профессором, академиком НАН Беларуси **Геннадием Михайловичем ЛЫЧОМ.** Цититуем:

"По данным мониторинга, проводимого сектором ценообразования Института системных исследований в АПК Национальной академии, в целом за 1991—2010 годы индекс цен на промышленную продукцию и услуги для АПК превысил индекс цен на реализованную сельскохозяйственную продукцию примерно в 3 раза. Особенно значительное превышение наблюдалось в первые годы переходного периода, когда в Беларуси вовсю раскручивалась инфляционная спираль.

В результате для покупки одного и того же производственного ресурса сельхозпроизводителям приходилось продавать все больше и больше своей продукции. Если в 1991 году, чтобы купить один трактор МТЗ-82, надо было продать 19 тонн зерна, то в 2010-м — 118, а в июле 2011-го — аж 148 тонн, или в 7,8 раза больше. Объем молока, необходимый для приобретения того же трактора, с 1991-го по июль 2011 года увеличился с 13 до 58 тонн, или в 4,5 раза, мяса крупного рогатого скота — с 2 до 12 тонн, или в 6 раз. Еще больше возросли расходы на топливо. К примеру, объем продаж зерна для покупки одной тонны дизтоплива с 1991-го по июль 2011 года увеличился в 86 раз, молока — в 49 и мяса крупного рогатого скота — в 84 раза.

Искусственное сдерживание закупочных цен привело к тому, что сегодня они у нас гораздо ниже, чем во многих других странах мира, в том числе у ближайших соседей. К примеру, цена одной тонны пшеницы продовольственной в долларовом исчислении в январе 2012 года в Беларуси была ниже, чем в России, в 1,7 раза, в Украине — в 2,4, Польше — в 2,8 и Литве — в 2,7 раза. Рожь продовольственная у нас дешевле, чем в указанных странах, соответственно в 2,4; 3,8; 5,1 и 4,2 раза, ячмень фуражный — в 3; 4; 4,6 и 4,2 раза. Значительно ниже были в Беларуси и закупочные цены на продукты животноводства. В частности, по мясу крупного рогатого скота средней упитанности в убойном весе цены в России были выше, чем у нас, в 2,1 раза, Украине — на 14,5 процента, Литве — в 1,9 и в Польше — в 2,1 раза. И только по мясу птицы и куриным яйцам закупочные цены в Беларуси несколько выше, чем в отдельных соседних странах.

Отставание цен на реализуемую сельскохозяйственную продукцию от роста цен на промышленную продукцию ведет к прямым потерям сельхозпроизводителей. По исследованиям, проведенным за двадцатилетний период (1991—2011 годы), они составили 91,9 миллиарда долларов США, в том числе за последние пять лет — 24,1 миллиарда долларов, или более 500 долларов в расчете на гектар сельскохозяйственных угодий в год".

Надеемся, уважаемый Николай Каленкович, на Ваш вопрос дан обстоятельный ответ. Будут решены вышеуказанные проблемы — отпадет необходимость в государственных дотациях сельскому хозяйству.

ФОТАФАКТ

## Студэнты-мастакі ўзяліся за мінскія пад'езды



Студэнты Акадэміі мастацтваў распісваюць сцены ў пад'ездах жылых дамоў Мінска. У мінулым годзе яны прадставілі свой праект на конкурс "100 ідэй для Беларусі" і ўдастоіліся шырокай агалоскі ў СМІ. Тады маладыя мастакі планавалі наладзіць справу з размахам.

І праект сапраўды не заглох. Студэнты збіраюцца не толькі пашырыць геаграфію, але і падумваюць аб камерцыйнай выгадзе. Заказчыкі знаходзяцца. Як паведамляе партал "Нерухомасць", нядаўна адзін з іх заплаціў 4 мільёны рублёў за роспіс тамбура і лесвічнай клеткі.

Як тлумачыць ініцыятар праекта студэнт Акадэміі Аляксей Дземчанка, за творчасць і саму працу плата бярэцца вельмі сімвалічная. Асноўны артыкул выдаткаў — дарагія матэрыялы. Паводле слоў маладога мастака, банка самай таннай белай фарбы, якой хопіць на пакрыццё 25 м², сёння каштуе мінімум 300 тысяч рублёў.

Гэта работа выканана зусім нядаўна ў жылым доме на вуліцы Навінкаўскай (мікраraён "Навінкі"). Мастак пакрыў сцены паміж 8-м і 9-м паверхамі малюнкамі па матывах старажытнарускіх казак.

ЧУЛІ?

## Аляксандр РАДЗЬКОЎ:
## «Акадэмія навук будзе рэфармавана»

*Нацыянальная акадэмія навук Беларусі будзе рэфармавана. Аб гэтым паведаміў у Гомелі на сустрэчы з прафесарска-выкладчыцкім складам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь* ***Аляксандр Радзькоў.***

Паводле слоў Радзькова, цяпер неабходна вызначыцца ў цэлым са стратэгіяй дзейнасці галоўнай навуковай установы краіны. У часы Савецкага Саюза, калі беларуская навука з'яўлялася часткай агульнасаюзнай сістэмы, выдзяляліся вялікія рэсурсы на правядзенне фундаментальных даследаванняў. Цяпер такіх магчымасцяў няма.

*"Навошта нам, напрыклад, тры інстытуты эканомікі ў Акадэміі навук? Інстытут філасофіі можна было б перавесці ў адну з ВНУ, а інстытут машынабудавання перадаць Міністэрству прамысловасці, устанавіўшы пры гэтым двайное кіраванне ім. Неабходна вызначыцца і па некаторых іншых напрамках",* — лічыць Аляксандр Радзькоў.

ГАСТРОЛІ

## Упершыню

*Упершыню ў гісторыі творчых кантактаў Беларусі і Японіі Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі прадставіць айчыннае выканальніцкае мастацтва ў Краіне ўзыходзячага сонца.*

Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Аляксандр Гарбар на калегіі Міністэрства культуры. Ён прапанаваў назваць гэтыя гастролі Месяцам беларускай культуры ў Японіі.

Прэстыжная прапанова паступіла ў філармонію больш за год таму, і аркестр сур'ёзна рыхтаваўся да гастроляў. Тры праграмы з удзелам галоўнага дырыжора Аляксандра Анісімава і знакамітага японскага маэстра Тома Нішымота будуць гучаць на працягу 25 дзён у буйных гарадах Японіі, у такіх знакамітых залах, як Сантара Хол і Нацыянальная опера ў Токіа.

РЕЗОНАНС

# Не туда обратился

На имя главного редактора газеты "Народная Воля" (№№47—48 от 23.03.12 г.) обратился с письмом предприниматель Р.Ананьев с просьбой добровольно лишить его права на въезд в страны ЕС. Может, и не стоило бы этому факту придавать особое внимание: не хочет человек ездить в страны ЕС — ну и не надо. Так нет же, он хочет, чтобы его лишили этого права.

Кто же такой этот Р.Ананьев? Как он сам подписал свое письмо, он депутат Верховного Совета 13-го созыва, депутат Палаты представителей Национального собрания РБ 1-го и 2-го созывов.

Представляется, если человек три созыва был депутатом высших органов власти, он аргументированно, убедительно, логически должен обосновать причины такого странного (на мой взгляд) решения.

Но ни логики, ни убедительных аргументов в этом письме как раз и нет.

Свои заслуги Ананьев видит в том, что в начале 90-х годов он вел в архивах НКВД поиск мест захоронения немецких военнопленных и принимал участие в установке памятного креста в д.Тарасово Минского района.

Ему "дико наблюдать поведение таких господ, как министр Сикорский, по отношению к РБ" (здесь он правильно написал название страны). Не преминул сделать укор (или угрозу) Литве и Латвии за непонятную позицию: "Где ваш голос в защиту Белоруссии?" Это они должны были сделать в знак благодарности за транзит через порты Балтии удобрений, нефтепродуктов и прочего, уверен Р.Ананьев, забыв, видимо, что это взаимовыгодные, экономически обоснованные проекты равноправных сторон. Досталось даже далекой от нас Греции: "она уже "доевросоюзилась".

У Романа Ананьева в голове, очевидно, каша. Но если он так уж хочет стать невыездным из Беларуси, посоветую, что для этого надо сделать.

Вам, господин Ананьев, надо обратиться в Отдел по гражданству и миграции Управления внутренних дел РБ с просьбой о внесении в "черный список".

Если же и они Вам не помогут, тогда изготовьте плакат с надписью — "Я одобряю списки невъездных в Евросоюз чиновников", прикрепите его на грудь и выйдите на улицу или площадь. Успех будет гарантирован — Вас включат в "черный список".

Удачи Вам!

**А.ЗАГОРОВСКИЙ.**

ЭХО

## *И меня будто кипятком обдали...*

Здравствуй, любимая "Народная Воля"!

Хочу сказать огромное спасибо Вере Никитиной из Витебска за то, что она написала о нелепой рекламе чая "Лисма" *"Возьмем Чайковского и зальем его кипятком"...* Думаю, всех нормально воспитанных людей эта фразочка повергает в шок.

Чай, между прочим, низкого качества, выпьешь раз, а второй — уже ни за что. И как такую рекламу могли пропустить на телевидении? Имя гениальнейшего из гениальнейших композиторов Петра Ильича Чайковского употребили в глупейшем контексте.

Сейчас, к счастью, появилась реклама фирмы "Майский чай". И чай этот хороший, по себе знаю, и рекламируют его вполне прилично.

**Анна ЗАЙЦЕВА.**

ТАК ДУМАЮ!

# Не созрели?

Уважаемый Иосиф Павлович!!!

Хотел бы обратить Ваше внимание на следующее. В очередной раз с удивлением прочитал призыв "разам шукаць выйсце з той надзвычай складанай сітуацыі, у якой апынуліся" ("Народная Воля", №№43—44 за 16 сакавіка 2012 г.).

Любому здравомыслящему человеку понятно, что эту крайне сложную ситуацию в стране создали не народ Беларуси, не читатели "Народной Воли", не редакция и не лично Вы, уважаемый главный редактор, а "всенародно избранный" президент и его прикормленное окружение. Неужели не понятно, что все разумные предложения и доводы власти в очередной раз проигнорируют? Сколько раз и кандидаты в президенты, и в депутаты, и простой народ на страницах Вашей газеты предлагали много различных программ и разумных решений. Прекрасно помню предложенный лично Вами в колонке главного редактора сценарий проведения действительно честных выборов президента. И где все это? Что, власти прислушались хотя бы один раз? Что-то не припомню. Помню только обвинения в адрес руководителей оппозиции на пресс-конференциях для специально отобранных журналистов ("честных") в том, что они только кричат, ничего не предлагая.

Возникает вопрос: что же делать? А в данный период времени трудно что-либо предложить. Ведь те же и С.Букчин в статье "После казни", и С.Калинкина в статье "Выверты псіхікі", и многие другие авторы в своих статьях, совершенно правильно описывая причины теперешней ситуации, особо ничего не предлагают по выходу из нее, понимая, что при нынешнем режиме запуганный народ ни на что не способен. Как справедливо писал ранее С.Букчин, "ну не созрел еще наш народ для перемен". Я лично в этом убеждаюсь, стоя в магазинах, в очередях за "социальным" (дешевым) молоком и творогом и слушая доводы значительной части толпы, что во всем этом виноваты Шушкевич и Пазьняк.

Мое видение дальнейшего развития событий такое. Объединяя славян, создавая союзные государства, вступая в различные таможенные союзы и пространства, ЕврАзЭСы и т.п., получая кредиты, российские газ и нефть по бросовым ценам, наш "всенародно избранный" и не заметил, как затянул удавку на шее нашего государства. Мне кажется, что если все так будет продолжаться и ничего не изменится, то через 4—5 лет путинская Россия проглотит не только Беларусь, но и Казахстан с Украиной, тем самым воссоздав частично СССР. И тогда не надо будет оппозиции тягать друг друга за чубы, борясь за президентское кресло. Такого поста в Беларуси уже просто не будет.

Так что давайте не будем призывать народ заниматься "мышиной возней", а немного подождем: возможно, еще не все потеряно, и народ через некоторое время созреет.

**Евгений Александрович КОСАЧЁВ.**

*Витебск.*

ПРАПАНУЮ!

## *Ушануем Машэрава*

Пішу для ўсіх людзей, якія забываюць гісторыю Радзімы, некалі вялікай, а таксама гісторыю нядаўнюю — пра мужных, шчырых і таленавітых бацькоў народа.

Пішу пра чалавека, які нядаўна жыў з намі, **чэсна** кіраваў і быў побач з народам, гутарыў, тлумачыў, дапамагаў людзям, ніколі дарэмна не абяцаў.

З кожным годам у сродках масавай інфармацыі яго імя ўзгадваецца ўсё радзей і радзей, толькі ў сэрцах старога пакалення жыве яго добрае імя, а словы ўдзячнасці пра яго перадаюцца маладым.

Пётр Міронавіч Машэраў быў адным з першых ініцыятараў будаўніцтва мінскага метро. Дарагія сябры, давайце ўшануем яго памяць назвай адной з найпрыгажэйшых станцый метро.

**Віктар ЦЕРАХАЎ.**

СА СМЯШЫНКАЙ

# Што яшчэ ўчаўпе Ананьеў?

Другі раз у "Народнай Волі" з'явіўся Р.Ананьеў. Цяпер з артыкулам "Лишите меня права на въезд в страны Евросоюза". Раней усхваляў узахлёб рэжым А.Лукашэнкі і, вядома, стваральніка гэтага рэжыму. А зараз... Ну што сказаць пра чарговы опус Р.Ананьева? Сказаць можна шмат. Але навошта?

Я люблю А.Пушкіна. У тым ліку шчырыя ды праўдзівыя яго радкі "Хвалу и клевету приемли равнодушно и не оспаривай глупца". Таму што "глупец" ніколі не зразумее праўды, не зразумее ісціны і нават таго, што ён не здольны іх зразумець.

Як пасля першага артыкула, так і пасля другога я згадаў адну даўнюю, часоў "кукурузніка" М.Хрушчова, сцэнку.

Нясвіж. Сонечны дзень. Абедзенны перапынак. Каля будынка райкама партыі група службоўцаў ад няма чаго рабіць точыць языкі. Загадчык аддзела культуры райвыканкама звяртаецца да інструктара райкама партыі:

— Жора, можна ў цябе спытаць?

— Ну, што ты хочаш?

— Вось Маркс стварыў марксізм. Так?

— Так, — пагаджаецца Жора.

— Ленін пакінуў пасля сябе ленінізм. Так?

— Ну, так.

— А ты, райкамавец Жора Ананьеў, што пасля сябе пакінеш?

Дружны рогат. І злы Ананьеў.

Не ведаю, што пакіне пасля сябе Раман Ананьеў. Але ўпэўнены: нічога добрага. Хаця б таму, што ён — з ліку "палатачнікаў", якія прымалі многія недэмакратычныя, часам, як іх назвалі людзі, драконаўскія законы і папраўкі да іх, пра якія нават не хочацца ўспамінаць.

Цікава, з якой яшчэ смешнай і недарэчнай прапановай аб'явіцца Р.Ананьеў? Што яшчэ ўчаўпе?

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, пісьменнік.**

*Мінск.*

О ЗВЕЗДНОЙ ЖИЗНИ

## *Я порадовалась за Филиппа Киркорова*

С интересом прочла публикацию о Филиппе Киркорове, короле российской эстрады. Но не так все просто бывает и в жизни королей, важно, как они трудности преодолевают, несмотря на богатство и славу. Мне кажется, Филипп преодолел любовные страдания, успокоился, а теперь вот и девочка родилась. Я вижу в Филиппе столько доброты и искренности, что ее и на сотню человек хватит. Не зря ж Андрей Малахов согласился стать крестным, он очень справедливый и понимающий. И совершенно не интересно, кто мать ребенка. Мы не в каменном веке живем, пусть будет и суррогатное материнство. Главное — человек родился! Что может быть прекраснее? Очень хорошо, что тетя Филиппа смотрит за его доченькой, а не филиппинская няня.

Меня лично в этой публикации поразило высказывание Аллы Пугачевой о Киркорове. Цитирую: "Всю жизнь не любила такой тип людей, такой тип поступков, мне вообще все в нем не нравилось и сейчас не нравится". Так чего ж тогда выходила за него замуж да еще и венчалась в Иерусалиме?! Непонятно.

Да, в Пугачеву можно влюбиться, для меня она — гениальная. И никто ее еще не перепел. Никто. Я с ней одного возраста. А заметила ее как певицу после песни "Хорошо-то хорошо, да ничего хорошего". Песни ее люблю — грустные, драматичные. Она их так исполняет, не с кем и сравнить. Но дамочка достаточно в себе уверенная, чтобы выходить замуж за таких молодых. Не всем же быть солнечными, как Максим Галкин, есть люди и с непростыми характерами, как Филипп Киркоров. Видно, что он успокоился, подобрел, а теперь и для доченьки надо быть примером, есть ради кого жить. Пусть, может, мои слова кому-то покажутся наивными, но у него надо поучиться, как забывать личные обиды. Артисты ведь всегда на виду.

Счастья, здоровья Филиппу и его доченьке!

**Нина МЕДВЕДЕВА.**

З НАТУРЫ

# Самая родная

У раённай паліклініцы звычайна шмат людзей чакае прыёму, але ў гэты сакавіцкі дзень іх, скажам так, было нягуста. Наш участковы тэрапеўт недзе забавілася, казалі, на нараду пайшла, і прыйшлося доўга чакаць. Побач са мной на тапчане ў калідоры сядзела бабулька гадоў за восемдзесят. Невысокая, худзенькая, у простым акуратным убранні, яна, прыкрываючы маленькай зморшчанай далонькай рот, часта кашляла.

— Маня, ты гэта ці не ты?! — пачуўся раптам вокліч.

Ля маёй суседкі спынілася такая ж худзенькая, толькі высокая і прамая, як сцяблінка, бабулька.

— Я гэта, Ніначка, — пасунулася на тапчане тая, даючы месца сваёй знаёмай. — Што, ужо і пазнаць нельга, так змянілася?

— Каб нельга было, то не пазнала б. Ды і не бачыліся гадоў з дваццаць, дзіва што змянілася.

— Ой, Ніначка, а ці даўно тое было, што на танцы разам бегалі, памятаеш, нават з-за кавалера аднойчы пасварыліся. Ды ні адной з нас ён не дастаўся.

— У зямлі ўжо нашы кавалеры... А твой муж Вінцук ці жывы яшчэ?

— Няма. Пяць гадоў, як пахавала.

— І майго Петруся няма. Год ужо... У мінулую нядзелю паніхіду заказвалі... А самой вось ногі баляць. Прыйшлося да доктара цягнуцца. Добра, што блізка жыву. А ты ж па-ранейшаму ў вёсцы?

— Аграгарадок цяпер у нашых Бакунішках. Дамоў шмат пабудавалі, а жыць хутка не будзе каму: маладыя ў горад уцякаюць, а старыя, сама ведаеш, на могілкі перасяляюцца.

Яны б і яшчэ гутарылі, але да бабы Мані падышла мажная жанчына з пуховай хусткай у руках:

— Мама, накіньце вось на плечы, цяплей будзе. А то кашаль і так даймае. — Яна сама ахінула старэнькую хусткай, папраўліла ля шыі складку.

— Шчаслівая, дачку маеш, — з дрэнна прыхаванай зайздрасцю ў голасе прамовіла Ніна. — Але да цябе ні крапелькі не падобная, — жанчына глядзела ўслед маладзіцы, што пайшла далей па калідоры па нейкіх сваіх справах.

— Не дачка гэта, а нявестка, — з цеплынёй у голасе сказала Маня.

— Нявестка?! — здзівілася сяброўка. — І мамай называе? Такая ласкавая...

— Самая родная... Любачка мая ды сын Антон. З імі і жыву.

— Шчаслівая, — зноў паўтарыла Ніна. — А я адна. Сын у Гродне. Прыязджае раз у год, а нявестка і ўнук наогул вачэй не паказваюць. Навошта я ім, такая старая і нямоглая?..

— А я і сапраўды шчаслівая, ды толькі так было не заўсёды. Вельмі ж некалі не хацела, каб мой Антон ажаніўся з Любачкай. Яна не мясцовая, эканамістам прыехала працаваць у наш калгас. Не спадабалася мне. Нават і сказаць не магу чым, а не спадабалася...

— Бабская дурасць, — сказала на гэта Ніна.

— Праўда, што дурасць. Вельмі ж я тады хацела, каб сын ажаніўся з нашай мясцовай Верай Курбат, бацька якой працаваў старшынёй сельсавета. А як жа, думала, начальства, дачцэ ды зяцю, сыну майму, значыць, дапамагаць будзе. І прыгожая тая Вера была, як каралеўна. Настаўніцай у школе працавала.

Ды Антон мяне не паслухаў: прывёў у дом тую, якую кахаў. Дык я з ёй са злосці мала і размаўляла: буркну штонебудзь ды зноў маўчу. І работу ўсю хатнюю на яе плечы пераклала, хоць і сама не вельмі стамлялася, у школе прыбіральшчыцай працуючы.

Яшчэ больш не ўзлюбіла я нявестку, калі ад мясцовай фельчаркі даведалася, што ў маіх маладых не будзе дзяцей. Па сакрэце тая мне сказала. Праўда, не сказала, што прычына ў нявестцы, але ж мы, дурныя бабы, заўсёды любім вінаваціць чужых дзяцей, а не сваіх.

— Так яно, — падтрымала сяброўка.

— Не ведаю, як бы жылося далей, калі б Бог не паслаў мне выпрабаванне, а разам з ім і розум. Раптоўна цяжка захварэў муж: больш за шэсць гадоў быў прыкаваны да ложка інсультам. Любачка даглядала яго як родная дачка, ды і то не ўсялякая. І тады мяне маланкай працяла думка: а раптам і мяне тое ж чакае? Як буду на нявестку сыкаць ды буркаць, то завернецца і паедзе на сваю Гомельшчыну, бо што яе тут трымае? Тым больш што сын, гледзячы на такія мае адносіны да яго жонкі, часта пачаў зазіраць у чарку. А тут яшчэ бацька нямоглы...

Словам, гора прымусіла мяне глянуць на Любачку, так бы мовіць, другімі вачыма, ацаніць яе адданасць нашай сям'і і клопаты. Тады я заўважыла, як схуднела нявестка, якія чорныя кругі заляглі ў яе пад вачыма. Ласкавейшай стала да яе, дабрэйшай. На яе "мама", а так яна называла мяне з першых дзён замужжа, пачала называць дачушкай. І тады, нягледзячы на цяжкую мужаву хваробу, нібыта пасвятлела ў нас у хаце, пацяплела ад душэўнасці. І Антон неўпрыкмет перастаў піць, пасля работы спяшаўся дадому, а не да магазіна разам з сябрукамі. Так што Любачка для мяне вельмі дарагі чалавек. А што дзетак няма, то не ў іх адных. Кожны чалавек на гэтым свеце павінен несці свой крыж: адны пакутуюць без дзяцей, а другія — з дзецьмі. І невядома, хто больш...

— Праўду кажаш, — у раздуме згадзілася сяброўка. — Трэба і мне са сваёй нявесткай ласкавейшай быць, пазваніць ёй, а то ад мяне яна таксама мала дабра бачыла...

— Ага. Мы хоць і старыя, але іншы раз такія дурныя бываем. І прычым у самым галоўным...

Вярнулася мой доктар, і я пайшла да яе ў кабінет, пакінуўшы гаваркіх бабулек, якія пераацэньвалі маральныя каштоўнасці...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

# Нет возвращению в 37-й!

Здравствуйте, "Народная Воля"!

Прочитав отрывок из книги Светланы Алексиевич "Время SECOND HAND", не могу остаться равнодушной. Трагические события после 19 декабря 2010 года многих, кто раньше жил с закрытыми глазами, заставили задуматься: в каком государстве мы живем? Казалось бы, 1937-й давно ушел в прошлое. Но нет: он то и дело возникает на наших улицах, площадях, в нашей душе. Дубинки против мирных граждан, аресты, пытки, унижения, несанкционированные обыски, прослушка и тому подобное говорят: а мы недалеко ушли...

Для своих внуков и правнуков я начала писать книгу "Помни корни рода своего". Они должны знать, какую жизнь прожили их предки. Как во время коллективизации у их прапрабабушки отняли единственную корову-кормилицу, более того — сделали детей сиротами. Все колена моего рода, да и не только моего, пострадали от рук палачей НКВД — по линии отца и матери, а также моего мужа (родители его уничтожены как "враги народа"). Пострадали родители свекрови моей дочери, родственники ее свекра. Я не хочу, чтобы моим внукам и правнукам на себе довелось примерить власть SECOND HAND'а. Но, к сожалению, этот 1937 год возрождается в другой ипостаси, уже в более изощренной форме.

Светлана Алексиевич со слов перенесших на себе "прелести" этого времени приводит примеры пыток в сегодняшних застенках. А моего дядю Александра энкаведист-палач в 37-м за непризнание вины посадил на вращающийся стул со сверлом. Стены камеры содрогались от душераздирающих криков, дядя умер во время "дознания". Он погиб с клеймом "польского шпиона"... Правду о его страшной смерти родственники узнали только спустя сорок лет — от бывшего сокамерника, свидетеля того ужаса. Его тоже арестовали как "польского шпиона" в том же, тогдашнем Паричском, районе. Видя чудовищные пытки узника, тот сориентировался и признал свою несуществующую вину. Его отправили на 25 лет лесоповала в Сибирь...

Сейчас, как и в сталинские времена, власть бросает своих "героев" против мирных граждан, требующих справедливых выборов. Им, "героям", совсем не стыдно — они же, мол, выполняют свой "служебный долг"... Как и в 37-м, наши люди стали всего бояться. Даже по телефону выражать свои мысли опасно. Многие стали предупреждать друг друга: о политике — ни слова.

Я вполне согласна с тем, что общество разделилось. Одним действительно все до фени, все пофиг. Другие приспосабливаются в любых условиях, при любой системе власти. Третьи ищут оправдания: мол, что сделаешь, от нас ничего не зависит. Зависит! Иначе бы власть так панически не боялась людей, выходящих на улицу с мирным протестом.

И еще. В государстве, где численность единиц силовых структур на душу населения намного превышает их количество в странах СНГ и Евросоюза, можно предположить и создание своего ГУЛАГа во всех его проявлениях. Если в 37-м из Кремля шли разнарядки на поставку бесплатной рабочей силы из числа надуманных "врагов народа" для лесоповалов Сибири и грандиозных советских строек, то в настоящее время жестокими репрессиями власть пытается защититься от своего же народа.

Люди, скажем вместе: нет возвращению в 37-й! Нет времени SECOND HAND!

**Тамара МИЛЛЕР, жительница Минска.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Час бярозавіка

**Жыццё — гэта не толькі палітыка. Таму не палічыце маё пытанне дробным. Зараз самы час збіраць бярозавік. Хачу, каб газета расказала, дзе і як гэта правільна рабіць?**

**П.П.Мартыненка, г.Гродна.**



Сапраўды, час збіраць бярозавік ужо надышоў. Дарэчы, для здабычы соку падыходзяць не толькі бярозы, але і клёны.

Перш чым адправіцца за сокам, трэба звярнуцца ў мясцовае лясніцтва. Там падкажуць, дзе выдзелены месцы для збору соку грамадзянамі. Дарэчы, прыватным асобам яны выдзяляюцца бясплатна.

### Як правільна збіраць сок?

— Грубую кару з дрэва трэба зняць.

— Канал свярліць трэба пад невялікім вуглом, каб сок лепш сцякаў. Шырокую дзірку ў дрэве рабіць не трэба (дыяметр — 1 сантыметр, глыбіня — 2—3 сантыметры без уліку таўшчыні кары).

— У падрыхтаваную адтуліну ўстаўляюць жалабок, выраблены з нержавеючага металу.

— Пад жалабок павінны быць устаноўлены соказборнікі (напрыклад, шкляныя або пластмасавыя ёмістасці, поліэтыленавыя мяшкі).

— Пасля заканчэння сезона жалабкі павінны быць зняты, а адтуліны зачынены драўляным коркам.

— Адтуліны і зрэзы варта замазаць садовым варам, глінай з вапнай ці жывіцай, якая змяшчае 15—20% драўнянага вугалю для папярэджвання захворвання дрэў.

— У наступны сезон падсечкі новых адтулін павінны размяшчацца на адлегласці не менш за 20 сантыметраў ад старых.

### Дзе нельга збіраць сок?

Нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

— у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў;

— у межах палос адводу чыгунак і аўтамабільных дарог і іншых транспартных і камунікацыйных ліній;

— у населеных пунктах;

— у дэндралагічных парках і батанічных садах;

— у месцах пражывання жывёл і росту раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу РБ;

— у межах акруг і зон санітарнай аховы курортаў;

— у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў;

— на тэрыторыі санаторыяў, дамоў адпачынку, курортаў і ўстаноў аховы здароўя;

— у месцах масавага адпачынку насельніцтва.

### Якія санкцыі пагражаюць парушальнікам лясного заканадаўства?

За нарыхтоўку соку на асабліва ахоўных тэрыторыях або на забароненых участках, а таксама за парушэнні тэхналогіі яго збору, згодна з КаАП РБ, насельніцтва заплаціць штрафы ў межах 50 базавых велічынь, індывідуальныя прадпрымальнікі — суму ў памеры да 200, а юрыдычныя асобы — да 500 базавых велічынь.

### Свежасабраны бярозавы сок можна і купіць

Бярозавы сок не абавязкова здабываць самім. Яго можна купіць на тэрыторыі любога лясніцтва. Кошт аднаго літра — 720 рублёў з ПДВ. Прыходзіць трэба са сваёй тарай.

І ЖАРТАМ, І ЎСУР'ЁЗ

## *Кубу дагонім?*

Надыходзіць 1 красавіка — самы час пасмяяцца.

Нядаўна сусветна вядомы часопіс "Эсквайр" надрукаваў падборку анекдотаў з краін, якія займаюць апошнія месцы ў рэйтынгу свабоды слова. Знайшлося там месца і Беларусі. Хаця нам наўрад ці будзе смешна.

"Яшчэ гадоў дзесяць такога эфектыўнага кіравання краінай — і ў Беларусі перапіс насельніцтва заменяць на пераклічку..."

Альбо вось яшчэ:

"Недалёкая будучыня беларусаў. "Унучак, ты грэчку на бутэрброд намазваеш, а я яшчэ добра памятаю, як мы яе лыжкамі з талеркі елі".

Але, прачытаўшы гэтую падборку, магу сказаць, што ўсе несвабодныя краіны падобныя, які б ні быў у людзей колер скуры, але праклён на іх нейкі адзін і той жа насланы.

Вось, напрыклад, анекдот пра Судан.

"Міжнародны суд абвінаваціў прэзідэнта Судана ў генацыдзе свайго народа. У сваю чаргу кіраўнік Судана сказаў, што на самай справе народ вінаваты, бо парушыў галоўны закон краіны: не скардзіцца".

Ці анекдот пра Кубу.

"Перад пасадкай у аэрапорце Гаваны пілот аб'яўляе: "Калі ласка, запрашаем на Кубу. Перавядзіце свае гадзіннікі на 50 гадоў назад".

У Беларусі, праўда, час спыніўся 20 гадоў таму. Але, такімі тэмпамі ідучы да перамен, мы Кубу дагонім.

**Сяргей ЧУПРЫС.**

ПЫТАННЕ — АДКАЗ

## *Смеццеправоды: быць ці не быць?*

***Нядаўна я наведвала сваякоў у Гомелі і са здзіўленнем даведалася, што там проста масава заварваюць смеццеправоды ў жылых дамах. А ці плануе Мінск пераймаць гэты вопыт?***

**Тамара Алейнікава, г.Мінск.**

У сектары шматпавярховай жылой забудовы сталіцы не плануюць масава заварваць смеццеправоды, як гэта практыкуецца ў буйных гарадах Расіі, Украіны, а таксама ў Гомелі ў мэтах барацьбы з антысанітарыяй. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела па добраўпарадкаванні, санітарным утрыманні жыллёвага фонду і працы з насельніцтвам ГА "Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка" **Маргарыта Язінская.**

— Па-першае, масавых скаргаў на непрыемны пах ад смеццеправода не паступае, — адзначыла спецыяліст. — А па-другое, для кансервацыі смеццеправода патрабуецца згода ўсіх жыхароў пад'езда, а на дваровай тэрыторыі трэба дадаткова ўладкаваць кантэйнерную пляцоўку, куды грамадзяне будуць выносіць бытавыя адходы.

